# Бела-чырвоная гармонія

Увесну сёлета ў Нямецкай Фэдэральнай Рэспубліцы адкрылася дакумэнтальная выстаўка «4 дзесяцігодзьдзі камунізму». Выстаўка гэтая задуманая, як контр-удар па бальшавіцкай прапагандзе, што ня сьціхае ні на хвіліну, бамбардуючы вольны сьвет падтасаванымі дадзенымі аб «дасягненьнях» савецкае ўлады ў СССР.

Кажны прызнае, што задума ў прынцыпе шляхотная й карысная. Таму няма дзіва, што ідэя зарганізаваньня такое выстаўкі знайшла падтрымку такое важнае арганізацыі як «Міжнародны камітэт абароны хрысьціянскае культуры», да якога належаць сусьветна ведамыя дзяржаўныя дзеячы розных заходніх краінаў. Пры адкрыцьці выстаўкі выступалі прадстаўнікі заходня-нямецкага ўраду. Ужо гэтага хапіла, каб выклікаць афіцыйныя пратэсты савецкага ўраду.

І вось выстаўка езьдзіць па Заходняй Нямеччыне з аднаго вялікага цэнтру ў другі, прыцягваючы нямала наведвальнікаў. Мяркуючы па афіцыйным назове яе — **«Эўрапэйская дакумантальная выстаўка»** — трэба думаць, што плянуецца яе паказваць і ў іншых краінах Заходняе Эўропы.

Што-ж, з гэтага трэба толькі цешыцца, — падумае сабе непаінфармаваны глыбей эмігрант. — Ці-ж гэта не карысны пачын?

Нажаль, такое задавальеньне вельмі-ж і вельмі перадчаснае.

Перад намі — брашура-суправаднік у нямецкай мове да выстаўкі. На тытульнай бачыне чытаем, што выдала гэтую брашуру ЦОПЭ («Центральное Объединение Послевоенных Эмигрантов»). Гартаем далей, і даведваемся, што арганізатарамі выстаўкі зьяўляюцца СБОНР (Союз Борьбы за Освобождение Народов России»), «Объединение жертв коммунизма» й тое-ж ЦОПЭ. Інакш кажучы — тры расейскія арганізацыі.

Якія-ж мэты ставіць выстаўка? Паслухаем насамперш самых арганізатараў:

«Чатыры дзесяцігодзьдзі камунізму — гэта ня толькі гістарычны адрэзак часу. Для народаў, паняволеных камуністычнай дыктатурай, гэтыя 40 гадоў зьяўляюцца трагічнымі. Пра трагедыю гэтых народаў і **ў першую чаргу расейскага народу**, расказвае нашая дакумэнтальная выстаўка «Чатыры дзесяцігодзьдзі камунізму».

Мы ўважаем зусім натуральным, што Расейцы хочуць паказаць перад вольным сьветам у першую чаргу трагедыю свайго ўласнага народу — гэта іхнае права й нацыянальны абавязак. Ніхто-ж ня можа пярэчыць, што й расейскі народ пацярпеў ці мала ад бальшавіцкае дыктатуры. Калі-б выстаўка была вытрыманая ў такіх рамках, ніхто — у тым ліку й прадстаўнікі нерасейскіх народаў СССР — ня мог-бы мець ніякіх засьцярогаў. Так — калі-б...

Выстаўка пачынаецца лютаўскай рэвалюцыяй і канчаецца пасьляваенным пэрыядам. У праваднiку да выстаўкі лютаўская рэвалюцыя прадстаўляецца, як рэвалюцыя дэмакратычная. Ня будзем пярэчыць — што тычыцца Расейцаў, дык гэта праўда. Але-ж варта прыгадаць, што апрача Фінляндыі й Польшчы, часовы расейскі ўрад не прызнаў ніводнаму нерасейскаму народу былое царскае імпэрыі права на самавызначэньне — навет права на аўтаномію. Ці мог тады гэты ўрад разьлічваць на сымпатыі нерасейскіх народаў?

Пасьля захопу ўлады бальшавікамі ў Расеі нерасейскія народы паставіліся адмоўна да бальшавізму й першыя пачалі змаганьне супраць яго — ня толькі за сацыяльную справядлівасьць, але й за нацыянальную незалежнасьць, права на якую не прызнавалі ў той час ні белыя, ні чырвоныя Расейцы.

Як-жа прадстаўляецца гэтае змаганьне на выстаўцы паводля брашуры-праваднiка?

«21 лістапада 1917 году... донскі (казацкі) ўрад абвесьціў аб непрызнаваньні ім савецкае ўлады й пераняў поўную ўладу ў свае рукі... Таксама і ўсе іншыя казацкія землі ня прызналі цэнтральна-расейскае савецкае ўлады.

«...20 лістапада...была абвешчаная Украінская Народная Рэспубліка. На Каўказе...» — і г. д.

Зьвернем увагу перш за ўсё на той факт, што аб тым, што ўсе гэтыя народы — уключна зь беларускім — абвесьцілі **незалежныя** рэспублікі — у брашуры не знаходзім ні слова. Арганізатары выстаўкі такое прызнаньне не пралезла праз вусны. Але гэтага яшчэ мала. Гаворачы аб антыбальшавіцкім змаганьні **Казакаў, Украіны і народаў Каўказу**, аўтары брашуры падсумоўваюць яго так: «Такім чынам, адразу ў першыя тыдні пасьля ўстанаўленьня савецкае ўлады ў **цэнтральнай Расеі, уся паўдзённая й паўдзённа-ўсходняя Расея** адмовілася прызнаць яе й зарганізавала цэнтры супраціву бальшавізму...» І далей: «Супраціў **ускраінаў** (Randgebiete) занепакоіў савецкую ўладу...»

Што скажаце на гэта, чытачы? **Як вам** падабаецца такая тэрміналёгія? Тут **ужо** ня то што «русский дух», а — выбачце, чытачы — **вялікадзяржаўніцкі смурод**... характар выстаўкі цяпер хіба ясны кажнаму.

Ды гэта ня ўсё. Калі ўжо гаварыць **аб** «ускраінах», дык чаму, апісваючы **роспуск** бальшавікамі расейскага ўстаноўчага сходу, ня было прыгадаць **яшчэ аб** аднэй «ускраіне», дзе бальшавікі раней разагналі сілай устаноўчы сход — **Усебеларускі Кангрэс**? Не — такіх рэчаў **ні** на выстаўцы, ні ў брашуры-праваднiку вы ня знойдзеце. Ня знойдзеце там **ніводнай** згадкі аб актах бальшавіцкае агрэсіі таго пэрыяду. Для арганізатараў выстаўкі савецкая агрэсія пачынаецца нападам на Фінляндыю й захопам балтыцкіх дзяржаваў. Зьліквідаваньне-ж і захоп збройнай сілай незалежных дэмакратычных рэспублікаў Беларусі, Украіны, народаў **Каўказу, Туркестану й** шэрагу іншых, арганізатары выстаўкі ўважаюць, відавочна, чыста нутрана-расейскай справай. Які парадокс: антыбальшавіцкая выстаўка — і заадно, якая дзіўная бела-чырвоная гармонія...

І гэтак праз усю выстаўку. Гаворачы аб культуры, нідзе ні словам ня сказана пра сыстэматычнае й сьведамае вынішчэньні нацыянальных культураў нерасейскіх народаў; гаворачы аб рэлігіі, нідзе не гаворыцца аб зьліквідаваньні нацыянальных цэркваў. Існуе толькі «единая и неделимая Русская Церковь» як і «единая и неделимая Россия» — й быць по сему...

Мы далёкія ад таго, каб вінаваціць у гэтых усіх выкрыўленьнях гістарычнае праўды тых, чыім імём запраўдныя арганізатары выстаўкі прыкрываюцца — у першую чаргу імён «Міжнароднага Камітэту абароны хрысьціянскае культуры» і такіх яго выдатных прадстаўнікоў, як француcкі міністар Пінэ ці Італьянец Гаэтано Марціно. Мы пераканаваныя таксама, што ў прадмове да брашуры-праваднiка міністар Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі др. Ліндрат у добрай веры пісаў наступныя словы:

«Мы ня хочам ідэнтыфікаваць сябе з мэтадамі камунізму... Праўда не павінна быць замененая прапагандовымі сяродкамі, як гэта робіць камуністычная агітацыя... Наша выстаўка... павінна быць у першую чаргу дакумэнтацыяй праўды й вернасьці фактам».

Цяжка што дадаць да гэтых шляхотных словаў. Арганізатары выстаўкі іх злоўжылі й ачарнілі.

Ул. Немановіч



**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**



### НОВЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗАХ. НЯМЕЧЧЫНЫ

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

нанямецкай сталіцы Бэрліне. Супраць гэтага войстра пратэставалі як усходнянямецкі камуністычны рэжым, гэтак і Савецкі Саюз, які ў пратэстацыйнай ноце да заходнянямецкага ўраду й заходніх вялікадзяржаваў назваў гэты крок «правакацыяй». У сувязі з гэтым капітулянты й панікёры на Захадзе не хавалі свайго страху, што ў дзень выбараў можа дайсьці да грозных інцыдэнтаў і што выбарная дэманстрацыя ў Бэрліне можа перашкодзіць далейшаму ходу Жэнэўскай канфэрэнцыі. Гэта, аднак, на Немцаў ня мела ніякага ўплыву, і яны ад правядзеньня выбараў у сваёй старой сталіцы не адмовіліся. Тымчасам выбары прайшлі спакойна й бязь ніякіх інцыдэнтаў. Правядзеньне прэзыдэнцкіх выбараў якраз у Бэрліне было заманіфэставаньнем адзінства Нямеччыны й нямецкага народу.

Ст.

# Змарнаваная нагода

**(Заканчэньне з 1-ай бач.)**

меней ствараў ён атмасфэру страху й няпэўнасьці ў заходніх грамадзтвах.

Таксама ня гледзячы на асьветчаньні заходніх дзяржаваў, што яны ў ніякім выпадку ня могуць вызнаць усходнянямецкага рэжыму, дэлегацыя ўсходнянямецкага ўраду была дапушчаная на канфэрэнцыю нараўні з дэлегацыяй ураду Заходняй Нямеччыны й магла выступаць з дэмагагічнымі й прапагандовымі прамовамі, колькі хацела. Апрача гэтага, заходнія міністры згадзіліся на «панямецкую» камісію, зложаную з прадстаўнікоў Бону ў Панкава, для апрацаваньня супольнага выбарнага закону для ўсяе Нямеччыны. Далей заходнія міністры выказалі згоду, каб усходнянямецкія чыноўнікі правяралі дакумэнты пэрсаналу заходніх саюзьнікаў падчас іхнага службовага падарожжа ў заходні Бэрлін цераз тэрыторыю Ўсходняе Нямеччыны. Усе гэтыя ўступкі, на першы пагляд можа й дробныя, зьяўляюцца, аднак, частковым неафіцыяльным вызнаваньнем усходня-нямецкага рэжыму.

Хаця перад канфэрэнцыяй заходнія дзяржавы ўвесь час станоўча заяўлялі, што пытаньне Бэрліну зьяўляецца неадлучнай часткай цэлае нямецкае праблемы і толькі ў такой роўніцы яно можа быць разгляданае, тымчасам у ходзе самой канфэрэнцыі яны паступова забываліся аб гэтым сваім прынцыпе, пакуль і зусім не забыліся, і гутарылі выключна аб адным Бэрліне. Брытанскі міністар замежных справаў Сэльвін Лёйд, вяртаючыся з Жэнэвы, асьветчыў на лёнданскім лётнішчы, што ён верыць у магчымасьць «разьвязаньня бэрлінскае праблемы». Аб іншых нямецкіх праблемах брытанскі міністар навет і ня ўспомніў.

Усе гэтыя беспатрэбныя ўступкі заходніх дзяржаваў зьяўляюцца ня чым іншым, як няўдачамі Захаду, а тымсамым бясспрэчнымі посьпехамі Савецкага Саюзу. Да ўсяго гэтага трэба дадаць і яшчэ адну заходнюю няўдачу — гэта захістаньне салідарнасьці між заходнімі саюзьнікамі. Пры станоўчым і няўступлівым становішчы Францыі, падпіраным такой-жа цьвёрдай пазыцыяй заходнянямецкай дэлегацыі, ды памяркоўным становішчы Амэрыкі Вялікабрытанія ўсякімі спосабамі намагалася зьмякчыць і зрабіць як мага эластычнай пазыцыю Захаду.

Як ужо ўспаміналася, Хрушчову вельмі моцна залежыць давесьці да канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні і за такую канфэрэнцыю ён быў-бы згодны навет нешта заплаціць. Гэтай цаной, прыкладам, магло-б быць прызнаньне заходнім дзяржавам іхных дасюлешніх правоў у заходнім Бэрліне. Але-ж яко ад даўжэйшага часу Вялікабрытанія ўсьцяж заяўляе, што незалежна ад вынікаў канфэрэнцыі міністраў замежных справаў усёроўна мусіць адбыцца спатканьне на найвышэйшай узроўні. Дык нашто тады Хрушчову нешта плаціць за скліканьне такой канфэрэнцыі, калі Вялікабрытанія ахвяроўвае яму гэтую канфэрэнцыю задарма?

Такім чынам заходні фронт на Жэнэўскай канфэрэнцыі хаця яшчэ не заламаўся, але моцна пахіснуўся. А гэта таксама бясспрэчны выйгрыш Савецкага Саюзу. Уся віна заходніх дзяржаваў заключаецца галоўна ў тым, што ў той час, калі Саветы, як і заўсёды, занялі пазыцыю цьвёрдую, наступальную, афэнзыўную, Захад, наадварот, заняў пазыцыю мяккую, абаронную, дэфэнзыўную. На канфэрэнцыі Захад ня высунуў ніякіх патрабаваньняў, якія далі-б магчымасьць перабраць ініцыятыву ў свае рукі, як толькі дамаганьне захаваньня статусу кво ў заходнім Бэрліне, надшчэрбленага ўжо зробленымі ўступкамі.

Чаго-ж тады можна спадзявацца пасьля 13-га ліпеня, калі канфэрэнцыя ўзновіць свае нарады? Адказаць на гэтае пытаньне ня цяжка. Усё будзе залежаць ад таго, якую пазыцыю ў далейшым зойме Захад. Калі гэтая пазыцыя будзе такая няпэўная, хісткая і ўступлівая, як у першай фазе канфэрэнцыі, дык ня можа й быць найменшага сумлеву, што Захад нічога не дасягне.

Урады заходніх дзяржаваў, знаходзячыся пад ціскам пацыфістычна настроенай публічнай апініі, баяцца, як агню, дражніць Саветаў і толькі мрояць аб прыязнай каэгзыстэнцыі зь імі. Яны ў ніякім выпадку ня хочуць зразумець, што савецкая палітыка й дыплямацыя кіруецца не пачуцьцём і ня вызнае ніякіх прынцыпаў прызваітасьці, а кіруецца толькі халодным розумам і грубым аблічэньнем, што для яе ёсьць выгадным, а што шкодным, што ёсьць дасягальным, а што няпэўным. Выходзячы з гэтых прыцыпаў, Саветы вайны баяцца, бо вельмі быў-бы няпэўны ейны вынік і ў іхным ураўленьні, затое пасьлядоўна праводзяць сваю экспансію мірным шляхам, нічога гэтым ня рызыкуючы, але шмат здабываючы. Навет у ваднымтолькі бэрлінскім пытаньні практыка паказала, што крэмлёўскія верхаводы ўмеюць толькі пагражаць і сыпаць, як з рукава, ультыматумамі, што яны зьяўляюцца незраўнанымі майстрамі ў вядзеньні халоднай вайны, але гарачай вайны баяцца і бессаромна адступаюць усюды там, дзе толькі наткнуцца на цьвёрдую, хоць і абаронную толькі пазыцыю Захаду.

Таму Жэнэўская канфэрэнцыя міністраў замежных справаў была для Захаду вельмі ўдзячнай нагодай перанясьці усю ініцыятыву ў свае рукі і ад абароны перайсьці да станоўчага наступу хоцьбы на базе тых трох прынцыпаў, якія высунулі заходнія дзяржавы яшчэ перад канфэрэнцыяй і аб якіх успаміналася ў пачатку гэтага артыкулу. У такім выпадку савецкая дэлегацыя, прыціснутая да муру, была-б змушаная загаварыць зусім іншым голасам, чымся гаворыць сяньня, а заходнія дзяржавы прыдбалі-б тады вялікі аўтарытэт і поўны давер у цэлым вольным сьвеце. Нажаль, гэтая нагода была поўнасьцю змарнаваная.

**Язэп Каранеўскі**

**Я. ЮХНАВЕЦ** 4)

# Узгоркі й Пячоры

**(Драматычны нарыс)**

ГАСПАДАР (на прокмець прыслухаўся)

І яна. Можаш цяпер, можаш... (галасы знадворку мацнеюць, начасьцей чуваць: — Забіць яго... забіць!) Я старавер... (з кутка гасподы Гаспадар пачуў скрып дзьвярэй, ён не азірнуўся на ўвайшоўшую хутка жанчыну з натоўпу — ягоную жонку; кароткі, узбудрожаны позірк на рэвальвэр; страляе ў сябе; некалькі чалавек убягае ў гасподу).

ЖАНЧЫНА — ЯГОННАЯ ЖОНКА (да увабегшых)

Ён здаецца застрэліўся...

### СЦЭНА 4-я

**Дзея адбываецца ў сьне.**

Антон, уцёкшы ад жыхароў Халопенічаў, якія сьцігавалі, каб забіць яго, вяртаецца да свайго ранешага месца-узгорку. Стомлены й галодны. Надыходзіць ноч. Залазіць у будку й засынае. Яму сьніцца.

СОН ПЕРШЫ

Роўнядзь ніў. На воддалі, з аднаго боку бор, з другога рака. Ад Антона недалёка некалькі вялікіх камянёў-валуноў. Подзьмухі ветру.

АНТОН

Я зноў адзін. І гоні ніў маўклівыя,
неўзабаве самі
у калосьсях высьпяляць
да асцюкоў прыліпшыя зярняты.
Бяз жалю вылушчаць іх напаказ прыродзе
і гаспадарку стамлёнаму —
ён той араты,
што учора
цалюткі дзень сьпяваў нагодзе
калыхаць маленца свайго найпершага.

О гоні! І ты разгон з душы маўклівай!
Усё цьвярдзіш ты розуму: пусьцеце
сьвядомасьць нейкага набожнага хістаньня —
кунежны чар: моцы палымністай дзеі
гоняць перад сабой цябе, куды?
Вось тады,
як жарсьць старая
успамінам толькі злоўленая,
зьнібею я, і зы страхам, сьветазорыя рашчу ўзоры
у сэрцах маленькіх і церпячых.
Гляджу за імі. Яны зь мяне сьмяюцца,
(жывуць паўнотаю жывога сэрца),
і кажуць:
— Мы самі маці найтурботныя і спадкаемныя
глядзець умеем на рай зарослы путамі.
Мы борзда раніцай валасы прычэшам
у гуках песьняў не рабынь прыгнутых.

О, моўкнасьць! Разгон душы маўклівай!
Зьбіраюцца страпелыя да роўнядзі далінаў
плён уратаваць утрачаны мо нашымі вякамі:
там груняй дум прарочых надарваны
лажыцца будучынай, як абток надзейны,
лятуцівы голас...

НЕВЯДОМЫ ГОЛАС

Каго? І што?

(Антон азіраецца. Ён спакмеціў чорную хмару. Пачаў адступаць да каменьняў-валуноў. Хмара за ім неадлучна.)

АНТОН

Каго?.. Ад каго?
Лятуцівы голас? Можа сьвятара,
можа ад прарока... О, Божа мой!
Вачмі ўтропнымі я глядзеў кадзе
на збажыну багатую, на сьвятлыню нябёсаў,
што злучаны былі адным сьвятлом
існасьці ціхаты жыцьця...

(прыпыняецца, глядзіць на хмару)
...бы перад ночай усё разборліва
схавалася у цямрыні тваёй.
І мой позірк ужо туляецца
у зорным начырку сінявы.
(адступае зноў да камянёў-валуноў)
Ды думка збуравай цьвярдыню!
Я не адзін спынёны ёй.
(паказвае у бок Халопенічаў)
Там мроі хваляй адклікнуліся
пад берагам бязвольных дзён.
А прывіды імкнецеся параплавамі...
Ужо месяц гоніцца ў сьцямнелы сьвет.
Сон зямлі яму прыносіцца
у кусочку ручая...
А мо кагосьці дух сьветачны
у змроку тым аджыў узмоцай
і кідаецца абкрываўлены
у сілу сваіх сіл?

(Хмара зноў рухаецца. Антон адступае і апыняецца каля двух найбольшых камянёў)

СНЫ У СНАХ

НЕВЯДОМЫ ГОЛАС

...там месяц ізь зямлі
заўсёды позна выплывае.
Яго нядаўна прывялі
туды пячоры цёмныя.
Колькі жаху, ты ня ведаеш,
у той час было на небе,
калі ты драмаў на вежы
з крылом, адбітым незнароку.
Кроплі стратныя далёка
якраз сплылі ізь месц пяшчаных.
Я дождж адправіў, і па дажджынах
пачуў пра шчэм у тваіх ранах.
Колькі сораму паветранага
пажыло у маіх сэрцах.

# Бальшавікі ў змаганьні зь беларускай эміграцыяй

**1. Мэты бальшавіцкае дывэрсіі сярод нашае эміграцыі**

Усходня-бэрлінскі камітэт «За вяртаньне на Радзіму» й ягоны аднайменны ворган, выдаваны на ўсіх мовах важнейшых нацыянальнасьцяў Савецкага Саюзу й рассыланы ў тысячах эгзэмпляраў эмігрантам у вольным сьвеце, паставілі перад сабою дзьве мэты. Аднэй, афіцыяльнай і адкрытай мэтай ёсьць заагітаваньне эмігрантаў вярнуцца на іхнюю бацькаўшчыну. Другой, неафіцыяльнай і замаскаванай пры дапамозе першай, зьяўляецца выклікаць сярод эміграцыйных масаў дэзарыентацыю, недавер да свайго палітычнага кіраўніцтва, разьбіць яе на ўзаемна варожыя групы й тым самым спараліжаваць ейную антысавецкую дзейнасьць.

Няма патрэбы даводзіць, што галоўнай і найважнейшай мэтай бальшавіцкай дзейнасьці сярод эмігрантаў ёсьць апошняя, якая носіць правакатарскі й дывэрсыйны характар, а першая мэта служыць толькі легальным прыкрыцьцём для апошняй. Бальшавікі добра здаюць сабе справу з таго, што тыя нямногія эмігранты, якія на заклік усходня-бэрлінскага камітэту вяртаюцца ў Савецкі Саюз, гэта звычайныя сяляне й работнікі, што яшчэ перад II Сусьветнай вайной выехалі з Заходняй Беларусі ў пошуках працы й хлеба, людзі палітычна пасыўныя й для бальшавікоў няшкодныя навет калі яны знаходзяцца на эміграцыі. Таксама й для антыбальшавіцкай эміграцыйнай дзейнасьці яны зусім бескарысныя. Дык дзеля жменькі такіх людзей, што вяртаюцца ў Савецкі Саюз, да якіх яшчэ трэба дадаць усякі здэмаралізаваны й крымінальны элемэнт, не маглі-б бальшавікі траціць вялізарных фінансавых сяродкаў, якія паглынае прапагандовая й дывэрсыйная дзейнасьць усходня-бэрлінскага камітэту й ягоныя многамоўныя публікацыі.

Беларускае выданьне газэткі «За вяртаньне на Радзіму» апошнім часам пачало асабліва шмат прысьвячаць увагі беларускай эміграцыі й ейнаму палітычнаму кіраўніцтву з выразнай мэтаю, каб яго скампраматаваць у вачох эміграцыйных масаў і такім чынам абясшкодзіць ды ізаляваць ад апошніх. Найбольш псуе бальшавіком крыві якраз «Бацькаўшчына», як вольны голас беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце, адважны, непахісны й бязьлітасны ў дэмаскаваньні бальшавіцкіх злачынстваў, і таму сталася «Бацькаўшчына» прадметам вельмі частых і злосна-гістэрычных нападаў.

«Бацькаўшчына» доўгі час ня рэагавала на гэтыя напады, уважаючы для сябе недастойным уваходзіць у палеміку з ворганам, хоць і неафіцыйным, савецкага МВД. Калі-ж, аднак, цяпер мы наважылі забраць голас у гэтай справе, дык узноў-жа ня дзеля палемікі. Усе артыкулы ў газэтцы «За вяртаньне на Радзіму», прысьвечаныя «Бацькаўшчыне» й беларускай эміграцыі наагул, цікавыя для нас тым, што яны, як ня трэба лепей, раскрываюць бальшавіцкую тактыку ў змаганьні зь беларускім вызвольным рухам на эміграцыі, а так-жа залганую бальшавіцкую аргумэнтацыю ў самаабароне перад абвінавачаньнямі ў праступнай антынароднай дзейнасьці, адважна й аб'ектыўна стаўлянымі «Бацькаўшчынай» пад адрысам бальшавікоў. Абодвы гэтыя мамэнты маюць далёка не апошняе значаньне ў нашай антыбальшавіцкай дзейнасьці, а таму беларускае эміграцыйнае грамадзтва павінна быць аб іх дастаткова паінфармаванае. Вось гэта і ёсьць тым матывам, які спрычыніўся да паяўленьня гэтага артыкулу.

**2. Намаганьні палітычна абезгаловіць эміграцыю**

Асноўнай мэтай бальшавіцкай дывэрсыі ёсьць палітычна абезгаловіць беларускія эміграцыйныя масы і ўзяць іх пад свой уплыў. У артыкуле «Хто хаваецца за плячыма эміграцыі», зьмешчаным у нумары 40 «За вяртаньне на Радзіму» за травень 1959 году, аб гэтым сказана нядвузначна:

«Перш за ўсё, **за мяжой няма ніякай «беларускай палітычнай эміграцыі»**. Ёсьць там Беларусы, якія ў пошуках хлеба і працы ў цяжкія часы панаваньня панскай Польшчы падаліся на чужыну, або тыя, каго закінулі ў далёкія краі суровыя вятры вайны. I ёсьць там жменька здраднікаў тыпу Астроўскага, Абрамчыка і іхных памагатаяў, якія даўно ўжо страцілі палітычнае аблічча і, каб хоць як-небудзь падняць свой прэстыж, імкнуцца прадставіць сябе нейкай сілай».

Аргумэнтацыя чыста бальшавіцкая: сказана зьверху, што ёсьць так, а ня гэтак, і ўсе павінны прыняць гэта за непамыльную праўду. Таму такі «аргумэнт» у вабставінах вольнага сьвету, дзе людзі прывыклі самастойна думаць і выказваць публічна сваіх думак не баяцца, ня мае ніякага значэньня.

Далей у тым-жа артыкуле пытаньне ставіцца больш канкрэтна і падмацоўваецца зусім канкрэтнымі прыкладамі:

«Мы адрозьніваем былога намесьніка прэзыдэнта Астроўскага па Баранавіцкай акрузе ў часы гітлераўскай акупацыі **Станіслава Станкевіча** ад звычайнага старасты, якога прымусілі выконваць няпрыемныя для яго абавязкі. Мы ведаем розьніцу паміж жаўнерам «самааховы», які, баючыся трапіць у канцлягер і быць высланым на катаржныя работы ў Нямеччыну, мусіў апрануць ганебны мундзір гітлераўца, і афіцэрам СД **Францішкам Кушэлем**, які насіў гэты мундзір з гонарам . . .»

I далей ідуць падобныя-ж прыклады.

Вымова прыведзеных цытатаў ясная: на эміграцыі, бачыце, знаходзіцца толькі маленькая жменька зраднікаў, што называюць сябе палітычнымі эмігрантамі, якім, пэўне-ж, няма іншага месца ў Савецкім Саюзе, як толькі ў магіле, а ў найлепшым выпадку на Калыме. Затое ўсе іншыя, навет тыя, што падчас нямецкай акупацыі вялі актыўнае змаганьне з бальшавізмам — гэта нявінныя ахвяры гэнай акупацыі, і ім цяпер усё дараванае. Навет болей, газэтка ў іншым месцы аблудна заяўляе: «У нас зараз няма фактаў прыцягненьня да судовай адказнасьці за палітычнае злачынствы». У гэта не паверыць хіба навет ніводзін з тых, хто з тых ці іншых прычынаў наважыў вярнуцца ў Савецкі Саюз.

Бальшавіцкая агентура намагаецца ўбіць клін ня толькі паміж беларускай нацыянальна актыўнай інтэлігенцыяй і эміграцыйнымі масамі ды перацягнуць апошніх на свой бок, але і сярод самой інтэлігенцыі выклікаць такі-ж падзел, здэзарыентаваць больш наіўных і ўзяць іх пад свой уплыў. У тым-жа артыкуле гаворыцца аб гэтым зусім выразна:

«Ёсьць сярод нацыяналістычнай інтэлігенцыі і людзі, якія былі ў свой час незаслужана пакрыўджаны. Віхор падзей, а часам і ўласная амбіцыя кінулі іх у варожы лагер. Яны не зразумелі таго, што памылкі ў уласным доме трэба выпраўляць самім, што іх нам ніхто ня выправіць, што балючыя зьявы ў выніку гэтых памылак нічога ня маюць агульнага з сутнасьцю нашага самага справядлівага ўкладу жыцьця».

Ня цяжка дагадацца, што мова тут аб былых ахвярах бальшавіцкага тэрору, былых зьняволеных савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў, якім падчас апошняе вайны ўдалося папасьці ў вольны сьвет і ўлучыцца ў рады зацятых змагароў з бальшавізмам. Яны цяпер ня ворагі для савецкае ўлады, бо як піша «За вяртаньна на Радзіму» ў нумары 37 за травень 1959 г., ім «Радзіма даўно даравала, і за гэта ёй трэба аддзякаваць сумленнай працай. У нас цэняць чалавека не за яго мінулае, а за тое, як ён працуе зараз».

**3. «Духоўнае жабрацтва» эміграцыі**

Наступным «аргумэнтам» бальшавікоў, пры помачы якога яны намагаюцца здыскрэдытаваць беларускую палітычную

**(Працяг на 4-ай бач.)**

# Савецкія выстаўкі й запраўднасьць

У ўрачыстых абставінах у Маскве 16 чэрвеня сёлета была адчыненая «Выстаўка дасягненьняў народнай гаспадаркі СССР». Адчыняючы гэтую выстаўку, Хрушчоў з асаблівым захапленьнем адзначыў, што выстаўка адбівае ўзровень і шляхі тэхнічнага працэсу, на канкрэтных прыкладах паказвае перадавыя мэтады працы й арганізацыі вытворчасьці.

На выстаўцы ёсьць і адумысловы павільён п. наз. «Беларуская ССР». Тут экспануюцца г. зв. дасягненьні савецкае ўлады за 40 год на Беларусі. Гэта экспанаты ўсіх галінаў прамысловасьці рэспублікі. Асабліва шырока паказана аўтамабільная, трактарная й станкабудаўнічая вытворчасьць. Трэйцяя частка павільёну адведзена на паказ разьвіцьця сельскае гаспадаркі за гады савецкае ўлады.

Уся выстаўка, а ў тым ліку й беларускі павільён, выглядае, як піша савецкая прэса, парадна й імпазантна. Аднак адна справа выстаўка, а другая — суровая запраўднасьць. Вось дзеля гэтага мы й спынімся крыху на гэтай жыцьцёвай савецкай запраўднасьці. Нам няма патрэбы штучна выдумоўваць факты. Яны вельмі выразна прыведзены на бачынах «Советской Белоруссии» за 23 чэрвеня 1959 г. праз тыдзень пасьля ўрачыстага адкрыцьця выстаўкі ў Маскве.

Рэч ідзе аб працы тэкстыльнай і швэйнай прамысловасьці Беларусі. Сталічная швэйная хвабрыка імя Крупскай перавыканала ў першым квартале, а таксама й за красавік-травень г. г. свае пляны выпуску прадукцыі першага сорту. Аднак, аказваецца, што ўжо пасьля апублікаваньня аб перавыкананьні ў чэрвені гандлёвыя арганізацыі 10% гэтага «першага сорту» перавялі ў ніжэйшыя гатункі, а некаторых вырабаў было переведзена 14,3%. У артыкуле пішацца, што гэтыя вырабы так выглядаюць, «што глядзець на іх сумна». Вырабы так зьмятыя, што іх як-бы «карова жавала».

Менскі камвольны камбінат выпускае толькі дарагую тканіну, а заплянаваныя ў першым квартале 50 тысяч мэтраў трыко камбінат адмовіўся рабіць. Камбінату выгадна выконваць пляны толькі дарагой тканінай, а інтарэсы працоўных адміністрацыю камбіната цікавяць менш за ўсё.

У Менску, як адзначана ў «Советской Белоруссии», «дастаць абутак патрэбнага памеру складаная справа». На працягу 10 гадоў абутковыя хвабрыкі Беларусі выпускаюць для дзяцей толькі бацінкі й паўбуцінкі. Сёлета пачалі выпускаць спартоўкі й сандалеты, але дзеці ў іх адчуваюць сябе «як у кандалох», бо гэты абутак цяжкі, цьвёрды й носіцца ня больш за два тыдні.

А вось некалькі прыкладаў, якім «надзённым хлебам« кормяцца працоўныя сталіцы Беларусі. У Менску ёсьць пяць хлебазаводаў; вытворчасьць іх вялікая, але прадукцыя нягодная. «Гандаль у Менску чэрствым хлебам і булкамі стаўся галоўным ліхам», — адзначае газэта. 30% усіх дробных хлебных і булачных вырабаў трацяць сваю сьвежасьць ужо на прадпрыемстве, за доўгі час да таго, як прадукцыя будзе адпраўлена ў магазыны. Толькі за пяць месяцаў на хлебных заводах Менску было зусім забракавана 94 тоны хлеба й булак. Прычыны розныя — пераважна дрэнная выпечка. Мала таго, асартымэнт хлебных вырабаў да скрайнасьці вузкі.

.. тымчасам на выстаўцы ў павільёне разьдзел харчовай прамысловасьці Беларусі характарызуецца так: «Багаты й разнастайны асартымэнт прадукцыі, якая выпрацоўваецца прадпрыемствамі харчовай прамысловасьці. Асвоена... больш за 60 кандытарскіх вырабаў».

Выстаўка ў Маскве зьяўляецца прапагандовым цэнтрам, разьлічаным пераважна на даверлівых турыстых вольнага сьвету. Жыцьцёвыя патрэбы працоўных задавальняюцца далёка ня так, як паказана на выстаўцы. Аб гэтым красамоўна сьветчаць факты прыведзеныя з жыцьця працоўных Менску — сталіцы Беларусі. Гэта не які-небудзь глухі куток Палескага раёну, а паўмільённы горад. Таму лёгка ўявіць, у якіх умовах жывуць беларускія працоўныя масы па-за Менскам. I багатыя савецкія выстаўкі ў Маскве, Бруксэлі ці Нью Ёрку не заменяць гэтым масам іх гаротнае штодзённае рэчаіснасьці.

**В. Б.**



**Настаўнікі й вучні Беларускай Суботняй Школы ў Брукліне (Нью Ёрку)**

**(Адумысловы рэпартаж гл. на 4-ай бач.)**

**НАЙВЯЛІКШЫМ ТВАІМ ПРЫЯЦЕЛЯМ НА ЧУЖЫНЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ГАЗЭТА «БАЦЬКАЎШЧЫНА». ДЫК ПАДТРЫМАЙ ЯЕ, ЧЫМ МОЖАШ!**

Мог ручай яго абмыць,
як золата паміж жарсьцвінаў . . .

НЕВЯДОМЫ АНЁЛ
Лепш хмары іншыя завесьці:
каб далягляды імі шчэрыць . . .

НЕВЯДОМЫ ГОЛАС
О не-е!
Цяпер зыйдзі,
барзьдзі із Ночай
пакінуць сінь маіх нябёсаў.
Спаткайся з месяцам. У час урочы
шугні яго да хмараў-кроснаў.

НЕВЯДОМЫ АНЁЛ
А я думаю — ня трэба
мне зьлятаць у промеж сьвету:
месяц зьбег з зямных пячораў,
хоць там, ведаю, ня цесна.
Вось глядзеце: зьвіс над плёсам,
і хвалі радзяць яму нешта . . .

НЕВЯДОМЫ БОГ
Мо сьмяецца з нашых дзірак,
што на зямлі празвалі зоры?

НЕВЯДОМЫ АНЁЛ
Ці-і-і! Нехта піснуў у каморы.

НЕВЯДОМЫ БОГ
Песьня рыб — усплёскі хваляў . . .
Не марудзь — табэ-ж дарогі!

НЕВЯДОМЫ АНЁЛ
Усё з ахвотай носяць рогі,
а ярмо . . .

НЕВЯДОМЫ БОГ
О-о-о! Дай, Божа, перамогі!

НЕВЯДОМЫ АНЁЛ
I ты ў пошуках дарогі?
У благім багі не пазнаюцца!

НЕВЯДОМЫ БОГ
Нехта з нас ці не жадае
упрасіць у помач Сьмерць? . .

АНТОН
Што? . . Скуль гэтая увора?

ХЛАПЧУК (зь пячоры пад валунамі, Антона за крысо жакеткі)
Хавайся. Страпелы ты.

АНТОН (усхвалявана)
Куды? Чаму? Яшчэ дажджу няма . . .
(азірнуўшыся)
Хто ты?

ХЛАПЧУК
Ты мне радня.
Хавайся. Уваходзь.

АНТОН
Прэч!

ХЛАПЧУК
Бы скула сярод плеч! Ха-ха!

АНТОН
Куды цягнеш, мізэрнае цягло?

ХЛАПЧУК
Ты-ж яшчэ не запавет Яго,
каб гэтую наслань спыніць.

(Антон мімаволі трапляе у пячору. Хлапчук бярэ яго за руку й вядзе у самую донь пячоры)

АНТОН (убачыўшы у пячоры просіг сонца)
Пусьці, куды вядзеш
здань з казак нашых жыцьцяпраўдных? . .
Зямлі даніну там праменьні цешаць.
Глядзі. Глядзі, кузурка чалавечая,
у вогкасьці пячоры для цябе
радасьць зьверхняю расказваюць яны . . . Пусьці!
О-о, ты моцны навет!

ХЛАПЧУК (засьпяваў)
Яны песьцяць вас (калісьці нараджоных)
і багаслаўляць узрослых у сізінь дзён . . .
(перастае сьпяваць)

Там у шчылінку на зьверхню працягні руку, мо хто ад гэтуль выцягне цябе. Слухмяны будзь.

(Антон падыходзіць да шчыліны ў пячоры, прасовае туды руку).

ХЛАПЧУК (сьпявае)
Цалуйце, кліканае! Цалуйце!
Хлусьлівы хоць усьмех даруйце
шэпатным пялёсткам ягоных вуснаў.

АНТОН
Цю-ю!

ХЛАПЧУК
А-а-ха-ха! Падаравалі для вас куцьцю,
ацю-ацю!
Скажы, у жменю плюнуў хто;
яна ці ён? Апрануты ці голы?

АНТОН (без уразы)
Мне усядно, абы ня быў пахавальнікам.

ХЛАПЧУК
А пахавальнік хто?

АНТОН
Чалавек слыху.

ХЛАПЧУК
Слыху? Далёкага слыху? Дык ён напэўна чуе далей за усіх, і за мяне, таксама? А можа ён тойсамы пахавальнік?

АНТОН
Не. Ён чалавек слыху дзеля наступнае пары.

ХЛАПЧУК
Я не падрос яшчэ, таму не разумею прышэльца, прынамсі: ц я б е!

АНТОН
Бо я сам прышэлец і гутуру аб нейкіх прышэльцах «наступнае пары». А ты магілка з краскамі на ёй, там яны, на зьверхні зямлі, перад тварам неба (ледзь усьміхнуўся).

ХЛАПЧУК (зьдзіўлены; бярэ Антона за руку, гутарачы, вядзе у другі кут пячоры, там стаіць арфа):

Ты, прышэлец, ажно ўсьміхнуўся ад гэтых слоў сваіх. Ты мабыць сьвятло, а ня слых яшчэ. Пакуль што слухай мае напевы. Ты-ж мой бацька па гадох, не праганяй мяне ад арфы. Буду блага йграць — папраў, пакажы мне. Не папраўлюся, — набрыне злосьць, ня злуйся, бо-ж ты сказаў: я — трама зямлі й неба, жыцьця й чалавека, таму й злосьць твая на мяне, якая? Маўчыш? (садзіцца за арфу: грае й сьпявае)

**(Далей будзе)**

# Бальшавікі ў змаганні...

(Працяг з 3-яй бач.)

эміграцыю, ёсьць прыпісваньне ёй «духоўнага жабрацтва». Гэтаму пытаньню прысьвечаны ў нумары 37 «За вяртаньне на Радзіму» за травень 1959 году цэлы артыкул п. н. «Духоўныя жабракі».

Довады для сваей «аргумэнтацыі» аўтар артыкулу бярэ з «Бацькаўшчыны» й ейных выданьняў. Ягонае разважаньне ідзе ў тым кірунку, што рэдактаром беларускіх эміграцыйных выданьняў не па сілах стварыць чагосьці свайго арыгінальнага, а таму, яны бяруць чужое і робяць выгляд, што гэта іх «собскае». У артыкуле чытаем:

> «Усё, што зьвяртае на сябе ўвагу з мастацкага ці іншага боку ў нацыяналістычным друку, узята із скарбніцы беларускай савецкай ... літаратуры. У нацыяналістычных выданьнях розных напрамкаў можна сустрэць паэтычныя і празаічныя творы савецкіх пісьменьнікаў: **Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Максіма Лужаніна, Івана Грамовіча, Ніны Тарас, Янкі Непачаловіча, Язэпа Пушчы, Аркадзя Марціновіча, Рыгора Барадуліна і многіх іншых.**
>
> У дадатках для дзяцей таксама творы савецкіх пісьменьнікаў. Напрыклад у «Каласкох» амаль усе творы належаць савецкім пісьменьнікам».

Заданьне такой бальшавіцкай «аргумэнтацыі» падвойнае: 1. паказаць, што палітычная эміграцыя ўзапраўды зьяўляецца духова вельмі беднай і нічога свайго арыгінальнага стварыць ня ў сілах; 2. падчыркнуць, што ўсе тыя беларускія культурныя цэннасьці і іхныя творцы, што знаходзіліся ці знаходзяцца ў Савецкім Саюзе, зьяўляюцца чыста савецкімі і нічога супольнага зь беларускім нацыянальным культурным рухам ня маюць.

Такія культурныя цьверджаньні й прыведзеныя на іхнае падмацаваньне прыклады могуць прамовіць толькі да бязьмежна наіўных і із сутнасьцяй справы зусім не абзнаёмленых людзей. Пэўне-ж, палітычныя эмігранты ўжо ў сілу самога факту знаходжаньня на эміграцыі й адарванасьці ад роднае глебы маюць вельмі абмежаваныя магчымасьці дзейнасьці. Але, ня гледзячы на гэта, беларуская эміграцыйная інтэлігенцыя, карыстаючыся свабоднымі ўмовамі жыцьця й працы ў вольным сьвеце, прапарцыянальна робіць у галіне беларускай культуры, мастацтва й навукі шмат болей, чымся творчая інтэлігенцыя васьмімільённай БССР. Пры гэтым творчая дзейнасьць эміграцыі, не скаваная ніякімі партыйнымі дырэктывамі, прыносіць у сваім выніку аб'ектыўныя, ад ніякіх палітычных вымаганьняў незалежныя й поўнавартасныя дасягненьні, хай сабе колькасна й сьціплыя. У той-жа час беларускія культурныя працаўнікі ў БССР мусяць тварыць ня так, як жадае іхная душа, і ня тое, што патрэбнае й карыснае для народу, а толькі так і толькі тое, што загадвае партыя.

Што-ж датычыцца таго, што беларускія эмігранты ў сваіх выданьнях «бяруць чужое і робяць выгляд, што гэта іх собскае», дык тут ужо бальшавіцкае нахабства пераходзіць усякія межы. Ані Купалы, ані Коласа мы не ўважаем за савецкіх пісьменьнікаў, але за нацыянальна беларускіх, за творцаў навачаснай беларускай літаратуры і ідэялёгаў не бальшавізму, але беларускага нацыянальнага адраджэньня. Тое, што бальшавікі, пасьля жахлівага над імі зьдзеку, потым вымусілі на іх прыхільныя для сябе творы й на гэтай падставе іх бессаромна прысабечылі, для нас яшчэ не аргумэнт.

Не ўважаем мы для сябе чужымі й большыні сучасных беларускіх савецкіх, правільней падсавецкіх, пісьменьнікаў, якія ў сілу ведамых у Саветах абставінаў змушаныя выхваляць у сваіх творах савецкі лад. Але яны часта даюць і такія творы, якія з партыйнымі дырэктывамі ня маюць нічога супольнага, і такія творы мы ахвотна передрукоўваем, каб знаёміць нашае эміграцыйнае грамадзтва зь імі не як з савецкімі дасягненьнямі, здабытымі дзякуючы «бязупынным клопатам роднай камуністычнай партыі» і «бязінтэрэсоўнай братняй дапамозе вялікага рускага народу», як аблудна інтэрпрэтуе ўсьцяж савецкая прэса й літаратурная крытыка, але як з дасягненьнямі беларускага нацыянальнага гэнія. Твораў такіх бяспрынцыповых і апартуністычных аўтараў, што сталіся падатнай прыладай партыйнай палітыкі ў літаратуры, як П. Броўка і яму падобныя, мы ня передрукоўваем і передрукоўваць ня зьбіраемся.

Мы эмігранты ня творым і тварыць ня зьбіраемся ізь сябе нейкай замкнутай у сабе й ізаляванай ад Бацькаўшчыны й беларускага народу касты, але зьяўляемся неаддзельнай арганічнай часткай усяго беларускага народу. Між намі й Беларусамі на Бацькаўшчыне толькі тая розьніца, што мы жывём і дзеім у свабодных умовах вольнага сьвету, чаго на Бацькаўшчыне народ наш пазбаўлены.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**Алесь Крыга**

## ДА ПРАДСТАЎНІКОЎ ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

На жаданьне Аўтара просім **усіх нашых Прадстаўнікоў у Эўропе, Аўстраліі й Аргентыне** безадкладна разьлічыцца за прададзеныя эгзэмпляры кніжкі **«Зь гісторыі Беларусі»** Я. Станкевіча, пасылаючы грошы на адрыс:

Dr. J. Stankevich
c/o Fr. Skoryna Society
6 Vandervoort Place
Brooklyn 37, N. Y. USA

і чакаць ад Я. Станкевіча паведамленьня, адсылаць яму, ці пакуль што задзержыць у сябе непраданыя эгзэмпляры кніжкі. Хто зусім не прадаў, няхай адразу вышле ўсе Я. Станкевічу, бо ў такім прыпадку няма надзеі, што яны будуць прадавацца.

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**



З нагоды шлюбу **сп. Аўгена Грушы** із **сп-няй Надзеяй Сасноўскай,** што адбыўся 28-га чэрвеня г. г., складаем маладой пары нашы найлепшыя пажаданьні спору, шчасьця й апекі Божай у іхным новым сужэнскім жыцьці.

Галоўнае кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі й Новай Зэляндыі.

Камітэт Набыцьця Беларускага Дому ў Вікторыі.



# Зь беларускага жыцьця

## Школьная ўрачыстасьць

Беларусь наша маці — Краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня зьгінем,
Покуль ты нас наперад вядзеш.
Прысягаем Табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве
Нашай слаўнай крывіцкай Пагоні
Мы ня зрадзім, мы ўславім яе.

І гэтым разам, апошнім у бягучым школьным годзе, дзеці Беларускае Сыботняе Школы ў Нью Ёрку разам із сваімі настаўнікамі пачалі свае заняткі адсьпяваньнем вышэй зьмешчаных патрыятычных радкоў. Толькі больш эмацыянальна і ўрачыста гучэлі гэтым разам прыгожыя словы. Гэта й зразумела. 13 чэрвеня заняткі былі ня звычайныя — а ўрачыстае заканчэньне школьнага 1958/59 году. На залі зьбралася ладная колькасьць людзей: бацькоў і гасьцей.

Тут на месцы будзе даць пару інфармацыяў. Сыботнюю школу зарганізаваў Культурна Асьветны Рэфэрат Акругі БАЗА ў Нью Ёрку. Праца ў школе пачалася ў пачатку кастрычніка. Школа мела 2 групы: 1-ую для малодшых дзяцей (ад 11-12 гадоў) і 2-ую для старэйшых вучняў (сярод іх былі й сябры Згуртаваньня Бел. Моладзі). У школе выкладаліся прадметы: Закон Божы, беларуская мова, гісторыя і геаграфія Беларусі. Настаўнікамі былі: Яго Прасьвяшчэнства Уладыка Васіль, сп. Н. Орса, др. А. Орса, др. Я. Станкевіч, Юры Станкевіч і М. Тулейка. Асаблівы націск клаўся ў школе на вывучэньне роднае мовы.

Шмат папрацавалі настаўнікі беларускае мовы сп. Н. Орса (старэйшая група) і сп-ры М. Тулейка і Юры Станкевіч (малодшая). І праца гэтая дала добрыя вынікі. Дзеці ня толькі навучыліся пісаць і чытаць, але, што ёсьць найбольш радасным, загаварылі пабеларуску. У спэцыфічных умовах, у якіх знаходзіцца кажная эміграцыя, калі штодзень ў школе дзеці чуюць толькі ангельскую мову і гутараць найчасьцей паангельску, той факт, што дзеці пачалі гутарыць пабеларуску ёсьць бязумоўна фактам вельмі пазытыўным. Усе прысутныя на ўрачыстым заканчэньні заняткаў маглі пераканацца аб выніках навукі, бо лекцыі з малодшай групай былі адкрытыя, г. зн. у прысутнасьці бацькоў і гасьцей. Дзеці адказвалі на пытаньні з Закону Божага Уладыку Васілю, пяялі малітвы, на лекцыі беларускай мовы чыталі і пісалі на дошцы. Прыемна было глядзець на задаволеныя й расчуленыя твары бацькоў дзяцей. Так, праца настаўнікаў дала прыгожы плён.

Старэйшая група правяла свае апошнія лекцыі як і заўсёды з настаўнікамі — ня робячы адкрытых лекцыяў. Ня месца тут дыскутаваць аб тым, хто выбраў з настаўнікаў лепшы мэтад праверкі ведаў вучняў. Скажам толькі, што ўсякая новая спроба, з мэтаю ўзьдзейнічаньне на бацькоў і выказаньне значэньня беларускае школы — ёсьць зьявай пазытыўнай.

Але вось пачалася ўрачыстая частка. Прамаўляў да бацькоў, дзяцей і гасьцей кіраўнік школы сп. Міхась Тулейка. Усё выясьніў, усё расказаў і аб школе і аб вучнях, аб высілках настаўнікаў.

У мастацкай частцы выступалі вучні з дэклямацыямі. Г. Эмільяновіч, Ларыса Клінцэвіч разам зь Сьвятланай Эмільяновіч, Кастусь Юхнавец. Прыгожа граў на акардыёне малы Алік Падгайскі. Рая Станкевіч (старэйшая група) дэклямавала верш Л. Генюш «Дзяды». А далей зьявіліся на сцэне «зьвяры». «Лясная казка» — п'еска пераапрацаваная настаўніцай школы з паэмы М. Калачынскага пад гэткім самым загалоўкам. У п'есцы выступала шмат пэрсанажаў (3 мядзьвядзі, удот, казёл, ласянё, бабёр, лісіца, вожык, варона, выдра, павук і 2 аўтары).

Гэта ўжо другі раз у гэтым школьным годзе настаўніца бел. мовы сп-ня Н. Орса прыгатавала дзіцячую пастаноўку. Цяжкая, няўдзячная праца падрыхтоўкі была рэкампэнсаваная гучнымі аплядысмэнтамі. Усе ўдзельнікі выконвалі свае ролі добра, але абавязкава трэба адзначыць ігру Валі Захаркевіч, якая сваю даўгую ролю малога мядзьведзя Патапа выканала з запраўднай мастацкай здольнасьцяй. Вельмі добра гаварыў Аркадзь Каваль (аўтар).

За супольны стол засела не малая сямейка — настаўнікі, вучні, бацькі і госьці. Супольны пачастунак ладзілі маткі. Задаваленьне і, я сказала-б, нейкая сардэчная цяплыня вычувалася ў супольных гутарках і песьнях.

Добры пачатак паклала ў гэтым годзе школа, пачатак узгадаваньня нашае моладзі на сьведамых беларускіх вучняў. Будзем спадзявацца, што праца будзе ўсьцяж разьвівацца шырэй. Зусім магчыма, што вучні старэйшае групы не захочуць пакінуць школы, а застануцца і надалей. Ці будзе гэта звычайная кляса, ці нешта накшталт курсу беларусаведы для моладзі — гэта ня важна, галоўнае, каб моладзь запраўды палюбіла сваю родную мову і каб пазнаўшы яе прыгажосьць, вучылася яе далей, дакладней. А зразумеўшы, што мова ёсьць найвялікшым скарбам, які перaказалі нам нашы прадзяды й бацькі, ня хто іншы, а толькі сьведамая беларуская моладзь пяройме ад старэйшых сьвяты агонь-зьніч змаганьня за нашу нацыянальную праўду.

На заканчэньне засталося сьціпла пажадаць, каб на пачатак 1959/60 школьнага году ня ў 10 разоў, а хоць-бы ўдвая большая група дзяцей і моладзі на ўрачыстым адчыненьні школьнага году адсьпявала тыя самыя прыгожыя словы:

Беларусь наша Маці — Краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей...

**З. Ст.**

## ДА НАШЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВАЎ!

**Выдавецтва «Б-ны» вельмі просіць сваіх паважаных прадстаўнікоў паведаміць Адміністрацыю аб колькасьці праданых экзampляраў «Выбраных Твораў» Р. Крушыны й аб суме выручаных за іх грошай, пераказаных ці яшчэ неперaказаных на конта Выдавецтва. Адміністрацыя згары складае сваю падзяку.**

**Адміністрацыя**

## У Кліўлендзе

21-га чэрвеня Жаночае Згуртаваньне ў Кліўлендзе й Адміністрацыя Грамадзкага Дому супольна ладзілі банкет: Жаночае Згуртаваньне — каб адзначыць дзень Бацькі (бо бацькі адзначылі дзень Маці), а адміністрацыя Дому — каб афіцыяльна адкрыць пашыраную сьвятліцу.

Бацькоў кароценька прывітаў сп. В. Сьпічонак — старшыня мясцовага аддзелу БАЗА, а сп. М. Гумен — старшыня Царкоўнай Рады — меў адумысловую гутарку. І якраз ён запрапанаваў надаць сьвятліцы беларускі назоў, адносна чаго быў цэлы рад прапановаў.

Пазьней маладая дзяўчынка Г. Кананчук уручыла падарункі для найстарэйшага бацькі сп. К. Валюкевіча й для наймалодшага — сп. Т. Васілеўскага.

Ад Адміністрацыі Дому сп. С. К., пры ўдзеле сп. М. Ягаўдзіка, раздаў падарункі тым, хто найбольш уклаў працы, каб беларуская грамада мела, хоць яшчэ скромны, але затое прыгожы свой грамадзкі прытулак. Падарункі атрымалі: інж. К. Калоша, сп. А. Міраеўскі, сп. А. Курыла й сп. А. Стрэчань. Сп. А. Стрэчань падрыхтаваў і прачытаў сьпісак 33 асоб, якія памагалі ў працы над сьвятліцай. І так, у сваёй грамадзе, у сваёй сьвятліцы, пад акампаніямэнт акардыёну сп. У. Літвінкі й гітары сп. М. Стрэчаня прысутныя весела правялі час. Пры гэтым трэба выразіць удзячнасьць нашым жанчынам — спадарыням К. Чэрнік, Н. Страпко, О. Стрэчань, Г. Радзюк, М. Міхальчык, М. Трацьцяковай і Н. Каваленка за падрыхтоўку такога с..чнага абеду.

Падчас банкету была публічна ўручана чаша сп. А. Міраеўскаму, які заняў першае месца па пінг-понгу ў мінулым годзе, хоць афіцыяльна яму ўручыў яе яшчэ раней кіраўнік моладзі сябра Дунец.

21-га чэрвеня, дзякуючы захадам кіраўніцтва ЗБМА нашая моладзь мела магчымасьць выступіць зь беларускай песьняй і танцамі праз кліўлендзкую тэлевізійную станцыю 5. Кіраўнік праграмы сьпярша прадставіў У. Дунца, як кіраўніка Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе, і М. Лук'янчык, якая пазнаёміла гледачоў зь Беларусяй. Пазьней І. Каляда, пад акампаньямэнт У. Літвінкі (акардыён) і М. Стрэчаня (гітара), прасьпявала песьню камп. Куліковіча «Васілёчкі». Танцавальны-ж гурток выступіў зь беларускім народным танцам «Лявоніха». Танцорам Г. Мітраховіч, Г. Лук'янчык, М. Міраеўскай, М. Лук'янчык, І. Трацьцякову, У. Дунцу, Т. Лук'янчыку, В Лукашэвічу ды ўсім ўдзельнікам належыцца шчырая падзяка за так прыгожы ўчынак на карысьць прапаганды беларускага імя на чужыне.

**С. К.**

## 13-ы Зьезд ЗБВБ

17 травеня сёлета ў Беларускім Доме ў Лёндане, згодна з прадбачаным загадзьдзя парадкам, адбыўся чарговы 13-ты Агульны зьезд сяброў Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі.

Пасьля багаслужбаў, адпраўленых у Беларускім Доме айцом Прат. А. Крытам і айцом Ч. Сіповічам у Марыян Гаўз, сп. Ул. Бутрымовіч а гадзіне 1,45 адчыніў Зьезд.

Мандатная Камісія ў складзе сп. сп. Міхалюка, Паўлоўскага й Абабуркі сьцьвердзіла наяўнасьць кворуму й правамоцнасьць Зьезду. Тут-жа быў выбраны Прэзыдыюм Зьезду ў складзе: старшыня — сп. Паўлоўскі (аддзел Брадфорд), сакратары — сп. сп. Шацько й Сяўковіч (аддзел Лёндан).

Перш чым прыступіць да парадку дня Зьезду, ягоны старшыня прывітаў прысутнага на залі Старшыню Рады БНР сп. інж. М. Абрамчыка, папрасіўшы яго зрабіць кароткі агляд міжнародных падзеяў. Спадар Прэзыдэнт, затрымаўшыся на важнейшых здарэньнях у міжнародным жыцьці, асаблівую ўвагу зьвярнуў таксама на цэлы шэраг здарэньняў у жыцьці беларускай эміграцыі, якія падбадзёрваюць усіх нас да далейшага змаганьня за незалежнасьць Беларусі.

Зьезд прайшоў спакойна й рэчова. Справаздачы старшыні Галоўнай Управы ЗБВБ, старшыняў паасобных аддзелаў і адміністратараў Беларускіх Дамоў паказалі, што, ня гледзячы на зьменшаны лік сяброў (шматлікія сябры ЗБВБ выехалі ў Амэрыку), жыцьцё й дзейнасьць ЗБВБ з выразным беларускім характарам трывае й кансалідуецца.

Усе тры Беларускія Дамы ёсьць у добрым стане. Беларускі Дом у Брадфордзе выплаціў начыста даўгі. Пры Беларускім Доме ў Лёндане збудаваны коштам 700 фунтаў чатыры гаражы, якія здадзеныя ў наём і за пару гадоў будуць прыносіць чысты даход.

Дзякуючы захадам сяброў аддзелаў у Манчэстары й Брэдфердзе за мінулую кадэнцыю заарганізаваны дзьве беларускія школкі для дзяцей.

Прызнаўшы старой Галоўнай Управе абсалютарыюм з падзякай, Зьезд выбраў новую Ўправу ў складзе: сп. А. Шацько — старшыня, а. Ч. Сіповіч — заступнік старшыні, сп. Я. Сяўковіч — сакратар, сп. П. Навара — скарбнік, сп. М. Булыга — сябра, сп. Ул. Бутрымовіч — сябра.

**А. Шацько**



## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber. Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**